# З пасланьня старшыні БНФ З.Пазьняка V-аму Зьезду

...Мы, безумоўна, перажываем трагедыю як расплату за страшнае мінулае. Але адначасна мы перажываем яе як пакутлівы шлях да свабоды. І мы ўжо ўзышлі на яго разам з новым пакаленьнем людзей. Заўтра, як кажуць валійцы ў Брытаніі, мы будзем ужо за вуглом.

Без пакутаў не атрымліваецца. Свабода тады дарагая, калі аплочана пакутамі, ахвярамі і крывёй. Такая яе цана. І калі яна яе прад'явіць — альбо плаці, альбо не і заставайся рабом. Выбірай.

Ні адно дзеяньне па задушэньні свабоды, нават самае жорсткае, ня ёсьць абсалютна разбуральнае, калі існуе яму хоць малое супраціўленьне. У гэтым ёсьць крыніца аптымізму любой барацьбы. Растлумачу на прыкладах.

Забарона беларускай сымболікі, бясправўе, фальсіфікацыя рэфэрэндуму і хамскае пляваньне ў твар нацыі выклікала вельмі цяжкі псыхічны ўдар, зрабіла страшэннае ўражаньне на нармальных людзей. Некаторыя памерлі ад стрэсу, ня вытрымаўшы ганьбы. Так, зроблена подлая вялізарная шкода для беларусаў. А цяпер уявіце, калі б гэты рэжым існаваў бы пад бел-чырвона-белым сьцягам і прадаваў бы Беларусь Маскве. Пад бел-чырвона-белым сьцягам зачынялі б беларускія школы, выступалі б Лукашэнка і Ціцянкоў, а амапаўскія падонкі з Пагоняй на гэлмах білі б палкамі па галовах беларускіх дзяўчат за размову пабеларуску. Як бы людзі такое ўспрынялі? Цяпер жа ўсё лягічна: антыбеларускі рэжым пад сваім сьцягам, а беларуская нацыя пад сваім. І які нам гэты сьцяг стаў дарагі, сьвяты, як мы яго любім, які ён харошы, як ён нас яднае.

Вялікія агульнаграмадскія ідэі, якія кажуць пра неабходнасьць вялікіх грамадскіх пераменаў, заўсёды патрабуюць адкрытага змаганьня, адкрытых дэкларацыяў і канкрэтных сымболяў. Прынцып такі: запальваем сьвечку і ставім на стол, каб бачылі ўсе. Тады прыдуць. Таму, хто запаліўшы сьвечку, паставіў яе пад ложак (каб ня ўбачылі і не патушылі), ні на перамогу, ні на падтрымку спадзявацца ня трэба. Вялікія ідэі патрабуюць змагароў і сьмелых людзей. Гэта універсальны прынцып, які прывёў да ўсталяваньня хрысьціянства і сусьветных рэлігій, да перамогі нацыянальных ідэяў і стварэньня незалежных дзяржаваў, да грамадскіх пераменаў. Нашая ідэя —гэта беларуская ідэя.

Побач з адкрытасьцю і барацьбой заўсёды існуе сьвядомасьць філістэрская, якая робіць выбар, але ня здольная да змаганьня. Яны раяць "не высоўвацца", "не выпячивать белорусский язык" ("хотя мы за"), "не выступать открыто против КПСС" ("хотя мы понимаем"), "не выступать против России" ("пакуль тое ды гэтае"), "не писать о русском империализме и его опасности" ("хотя все правильно") и г.д. І, дадам, хоць артыкул аб імпэрыялізме быў для іх першым "лікбезам" у разуменьні рэальнай палітыкі, лікбезам, які яны так і не засвоілі. Палемізаваць з "разумнікамі" немагчыма (і ня трэба марнаваць час). Яны ўсё роўна разумнейшыя.

...Палітычнае дзеяньне мераецца вынікам. А вынік такі, што міжнародная супольнасьць ня прызнала лукашысцкі рэжым, яго дзеяньні і структуры. Вынік такі, што яго палітыка ў ізаляцыі. Вынік той, што міжнародная супольнасьць цяпер значна лепш інфармаваная пра Беларусь, чым калі б гэта ні было.

Усе захады па інкарпарацыі Беларусі, якія Крэмль і Лукашэнка робяць цяпер пад выглядам інтэграцыі, усе папяровыя саюзы з Расеяй, падпісаныя Лукашэнкам і Ельцыным зьяўляюцца крыміналам, яны не адпавядаюць Канстытуцыі Беларусі і ня могуць быць прызнаныя міжнароднай супольнасьцю, якая не прызнала рэжым Лукашэнкі, яго "канстытуцыю", "парлямант" і "рэферэндум". Беларускі Народны Фронт не прызнае іх.



Незаконнасьць пактаў, неправамоцнасьць дзеяньняў Крамля і Лукашэнкі не здымае небясьпекі над беларускай незалежнасьцю. Расейская імпэрыя заўсёды ігнаравала законы і права. Ставячы на хлусьню, вераломства і сілу, яна імкнулася стварыць такім чынам новую палітычную рэальнасьць і зморам прымусіць потым усіх гэтую новую рэальнасьць прызнаць. Тут тыповая палітыка вайны. Такім чынам сьвет некалі вымушаны быў прызнаць бальшавікоў і СССР, сталінскі пасьляваенны падзел Нямеччыны, гітлераўскія аншлюсы і г.д. Ён гатовы быў цяпер прызнаць і зьнішчэньне Чачні, калі б чачэнцы не абаранілі сябе са зброяй у руках.

...Задача беларусаў — не дапусьціць "здачы" краіны і адначасова выставіць **патрабаваньне аб адстаўцы Лукашэнкі і ліквідацыі пасады прэзідэнта.** Гэта, дарэчы, для яго лепшы варыянт чым той, які яму падрыхтавалі рускія. (Дабраахвотная адстаўка будзе ўлічана на судзе).

Шчырыя беларусы (прытым толькі беларусы, больш ніхто на сьвеце) тут жа скажуць: "Дык ён жа ня пойдзе! Памрэ — ня пойдзе! Тым больш дабраахвотна".

Ну, вядома ж, сам ён ня пойдзе. Трэба дапамагаць. Дыктатары па сваёй волі ў адстаўку ня ходзяць. (Хоць, калі Мабуту сказалі — дык і пайшоў. А калі Кастра ня кажуць, то і ня йдзе). Патрабаваньне трэба ставіць, дамагацца, казаць пра гэта кожны дзень. І чым больш людзей гэта зразумее, тым хутчэй Беларусь збавіцца ад калгаснага дыктатара.

У Народным Фронце трэба зараз падумаць аб стварэньні там на працягу лета Беларускага Нацыянальнага Камітэту, які павінен прапанаваць мадэль пераходу ўлады ад узурпатарскай дыктатуры да парляманцкай рэспублікі. Функцыі Камітэту могуць быць потым вельмі шырокія. Пасьля падзеньня рэжыму выконваючы абавязкі прэзідэнта павінен быў бы адразу аб'явіць аб аднаўленьні дзейнасьці Канстытуцыі, законаў і аб правядзеньні выбараў у новы парлямант 14 скліканьня. Адразу павінны быць скасаваныя ўсе ўказы, дэкрэты і распараджэньні, дагаворы і т.п. лукашэнкаўскага рэжыму, а таксама антыканстытуцыйныя акты (вызначаныя Канстытуцыйным судом), выпушчаныя з турмы палітычныя вязьні, тыя, каго Лукашэнка пасадзіў бяз суда па падазрэньні і інш. Адразу павінны быць вернутыя сьцяг і гэрб "Пагоня", адноўлена дзейнасьць беларускіх школаў, беларускіх газэтаў, выдавецтваў, беларускага радыё і тэлепраграмаў, да пачатку дзейнасьці новага парляманту трэба прыняць тэрміновыя захады па спыненьні раскраданьня дзяржаўных сродкаў і фінансаў, па ўпарадкаваньні падаткаў, аднаўленьні прадпрыймальніцтва. Першай задачай новага парляманту, пажадана, каб стала скасаваньне пасады прэзідэнта і ўсталяваньне парляманцкай сыстэмы з шырокімі функцыямі прэм'ер-міністра.

...У бліжэйшы час Фронт выставіць новыя лёзунгі, удакладніць мэты грамадзкага змаганьня. Яно ня спыніцца і будзе пашырацца. Наўрад ці варта казаць мне тут пра канкрэтыку вызвольнай барацьбы, якая доўжыцца і якая наперадзе. Магу толькі адзначыць: мы лічым, што незалежнасьць Беларусі пад пагрозай і Бацькаўшчына ў небясьпецы. Таму мы палітычна падтрымліваем цяпер любое змаганьне ў абарону Айчыны. Сам Беларускі Народны Фронт і як рух, і як партыя, і як маладзёвы змагарны Фронт будзе узмацняць грамадзка-палітычную дзейнасьць, пастараецца прыцягнуць як найшырэйшыя пласты свабодных людзей у беларускі вызвольны рух.

Паўтаруся яшчэ раз. Для нашага грамадзтва (ці, рэальна, для актыўнай часткі грамадзства) неабходна цяпер мець адзіную пазыцыю (якую б я акрэсліў сцьвярджэньнем: "ніякай інтэграцыі з Расеяй") і адзінае патрабаваньне — адстаўка Лукашэнкі. Некалі Лукашэнка дэмагагічна заяўляў, што калі нічога не палепшыцца, то праз два гады пойдзе ў адстаўку. Прайшло тры гады.

У 1996 годзе быў механізм імпічманту. Цяпер няма механізму адстаўкі. Але, калі будзе воля, то будзе і вынік. Калі мы хочам пазбавіцца дыктатуры і захаваць незалежнасьць Беларусі, мы павінны найперш абараняць, ахоўваць, падтрымліваць і любіць усё беларускае: і краіну, і мову, і школу, і культуру, і прыроду, і маёмасьць, і людзей. Усім беларусам трэба падтрымліваць беларускі вызвольны рух і палітыку нацыянальна-культурнага адраджэньня. У становішчы агульнай нацыянальнай небясьпекі дзейнічаюць іншыя законы і іншыя крытэрыі, чым тады, калі сьмяртэльнай небясьпекі няма. У такія часы добра калі людзі ўмеюць ахвяравацца дзеля агульнае беларускае справы, як і дзеля кожнага беларуса, і сваім клопатам, і часам, і працай, і грашыма, і маёмасьцю, і, калі хто зможа, і калі патрэбна — уласным лёсам.

# Беларусь — у Эўропу!

ПАЛІТЫЧНАЯ РЭЗАЛЮЦЫЯ V ЗЬЕЗДА БНФ

## Стратэгія абароны незалежнасьці



Незалежная дзяржава — неацэнная каштоўнасьць кожнай нацыі. Але незалежная дзяржаўнасьць Беларусі, не пасьпеўшы замацавацца, зноў знаходзіцца пад пагрозай зьнішчэньня. Пагроза зыходзіць ад імпэрскай Расеі, кіраўніцтва якой імкнецца да інкарпарацыі нашай краіны як каляніяльнымі, гэтак і неакаляніяльнымі мэтадамі.

У Беларусі пануе дыктатура расейскіх марыянетак на чале з Лукашэнкам. Рух краіны да дэмакратычных падставаў арганізацыі грамадзтва спынены, эканамічныя рэформы не вядуцца, дзяржава ўяўляе сабой лёгкую здабычу для расейскіх манаполіяў. Вынішчаюцца эканамічныя, духоўныя і нават фізічныя падставы выжываньня і пэрспэктывы беларускай нацыі. Душыцца беларуская мова, нацыянальная культура і сістэма адукацыі, выціскаецца гістарычная памяць. Людзей зноў вымушаюць сяліцца ў чарнобыльскай зоне і вырабляць там сельскагаспадарчую прадукцыю. Барацьба за незалежнасьць сёньня — гэта барацьба з антынародным рэжымам Лукашэнкі.

Мэты і задачы БНФ "Адраджэньне", акрэсьленыя папярэднімі зьездамі нашага руху, застаюцца нязьменнымі. Галоўная праграмная мэта Беларускага Народнага Фронту —вольны чалавек у адроджанай незалежнай Беларусі — ня зьдзейсьненая. Наперадзе — нялёгкі пэрыяд, калі ўсе сілы павінны быць скіраваныя на абарону НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Беларусі.

**1. Ацэнка становішча**

Змаганьне Беларускага Народнага Фронту супраць лукашэнкаўскага рэжыму дало канкрэтны плён. Засьведчана беспэрспэктыўнасьць антыбеларускага курсу лукашызму. Найбольш актыўная і адукаваная частка беларускага грамадзтва не прымае дыктатуры і гатовая на дзейсны супраціў ёй. Гэта, у сваю чаргу, спрыяе ўзмацненьню міжнароднай ізаляцыі рэжыму.

Разам з тым пасьля краху восеньскай (1996 г.) спробы Вярхоўнага Савету распачаць працэдуру імпічмэнту дыктатара ўнутраная кансалідацыя рэжыму ўзмацнілася. Антылукашэнкаўскія сілы, надзвычай разнастайныя паводле свайго складу і матывацыяў, апынуліся ў сітуацыі выбару: ці падтрымаць змаганьне з дыктатурай пад незалежніцкім лёзунгам вяртаньня ў Эўропу, якое вядзе Народны Фронт, ці то балянсаваць паміж Менскам і Крамлём, каб у выніку ўчыніць здраду і ганебна сысьці з палітычнай арэны. Таму існуе шанец згуртаваньня бальшыні сілаў, якія выступаюць супраць лукашэнкаўскай дыктатуры, на незалежніцкай глебе. Народны Фронт адкрыты для такога згуртаваньня.

Беларускі Народны Фронт — зьява, шырэйшая за звычайную палітычную партыю. Мы — нацыянальна-вызвольны рух, галоўны сёньня гарант незалежнасьці Беларусі, і мы мусім выкарыстаць шанец ператварыць барацьбу з дыктатарам у барацьбу за незалежнасьць і адраджэньне Бацькаўшчыны.

**2. Антыбеларускі марыянэткавы рэжым і маскоўскі імпэрыялізм**

Рэжым Лукашэнкі паводле свайго паходжаньня, мэтаў і спосабаў унутрана- і замежнапалітычнай дзейнасьці зьяўляецца марыянэткавым і часткова ажыцьцяўляе функцыі акупацыйнага. Ён выяўляе і бароніць не інтарэсы Беларусі, яе народу, а геапалітычны, эканамічны і вайсковы інтарэс Расеі.

Таму пагібельнай для лёсу Беларусі была б спроба выкарыстаць спрэчкі маскоўскіх груповак за кантроль над Беларусьсю ў мэтах барацьбы з рэжымам Лукашэнкі. Гэтыя гульні непазьбежна закончыліся б тым, што Масква выкарыстала б Лукашэнку для інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі, каб пасьля прыбраць яго з палітычнай арэны і захаваць уладу над нашай краінай праз наступных марыянэтак.

Прамаскоўскі дыктатар урэшце сыдзе, а дзяржава застанецца. Неабходна змагацца з дыктатурай так, каб гэтую барацьбу ня выкарыстала ў сваіх інтарэсах імпэрская Расея. Для гэтага беларускае грамадзтва з аб'екту чужых маніпуляцыяў мусіць ператварыцца ў згуртаваны нацыянальнай ідэяй і надзелены палітычнай воляй суб'ект, зь якім змушаны будзе лічыцца нават імпэрыялістычны драпежнік.

Адзіным мірным выйсьцем зь беларускага крызісу мог бы стаць сыход Лукашэнкі ў адстаўку пад ціскам усіх сілаў, што дамагаюцца аднаўленьня Канстытуцыі 1994 г. У іншым выпадку Беларусь могуць чакаць сілавыя варыянты разьвіцьця падзеяў. Каб іх прадухіліць, неабходна дамагацца адстаўкі незаконнага рэжыму ўсімі магчымымі сродкамі.

Выбары пры рэжыме Лукашэнкі ня могуць быць сумленнымі і дэмакратычнымі ў прынцыпе. Народны Фронт ня будзе ўдзельнічаць у антыдэмакратычных лукашэнкаўскіх выбарчых фарсах, а сканцэнтруе сваю дзейнасьць на абароне незалежнасьці краіны шляхам непасрэднай барацьбы з дыктатурай.

**3. Вяртаньне ў Эўропу**

Закончыўся "пасьляялцінскі" пэрыяд у структураваньні эўрапейскай геапалітычнай прасторы. Пацьвердзілася, што Расея не жадае ўваходзіць у гэтую прастору як яе роўная і арганічная частка, што яна настойвае на правядзеньні лініі падзелу паміж уласна Эўропай і сваёй "сфэрай інтарэсаў". Захоўваецца палітычная і эканамічная нестабільнасьць Расеі, яна безупынна вядзе войны на сваіх каляніяльных ускраінах і ў суседніх краінах.

Перад Беларусьсю стаіць жорсткі і адназначны выбар, часу на які адведзена няшмат: ці застацца ў расейскай геапалітычнай прасторы, а значыць, наканаваць нашай краіне і яе народу трагічны лёс — страту незалежнасьці, войны, кроў і жабрацтва, ці то зрабіць рашучы рывок дзеля вяртаньня ў Эўропу, у яе палітычную, праўную, эканамічную, цывілізацыйна-культурную, абаронную прастору.

Народны Фронт лічыць: інтэграцыя ў Эўропу, вяртаньне ў наш спрадвечны і натуральны эўрапейскі дом —гарантыя захаваньня і ўмацаваньня беларускай незалежнай дзяржаўнасьці і выжываньня беларускай нацыі. Беларусь гістарычна сфармавалася як тыповая цэнтральнаэўрапейская краіна, яе грамадзтва заўжды падзяляла традыцыйныя заходнія каштоўнасьці, і толькі расейская, а потым савецкая акупацыя гвалтам вырвала нашу краіну зь яе натуральнага цывілізацыйна-культурнага кантэксту. У "Эўропе Айчынаў" мы можам быць самімі сабой, роўнымі сярод роўных.

Народны Фронт выступае за ўваход незалежнай дэмакратычнай Беларусі разам з сваімі цэнтральнаэўрапейскімі суседзямі —краінамі Балтыі, Польшчай, Украінай — у эўрапейскія палітычныя, гаспадарчыя і абаронныя структуры. Разам з тым мы падтрымліваем усе ініцыятывы, якія замацоўваюць каардынацыю палітыкі і эканомікі краін Міжмор'я —Цэнтральна-Усходняй Эўропы.

**4. Якім быць Фронту**

Фронт, ягоныя сябры і ягоныя структуры павінны стаць жыцьцядзейнай у любых умовах нацыянальна-вызвольнай сілай, вакол якой здольныя згуртавацца ўсе, хто стаіць на пазыцы "Ніякіх інтэграцыйных гульняў з Расеяй" і ня йдзе на ўгоду з дыктатарскім рэжымам. Беларускі Народны Фронт як гамадзкі рух, беларускі народны фронт як сынонім шырокага супраціву дыктатарскаму антынароднаму антыбеларускаму рэжыму складаюць адно непарыўнае цэлае.

Уласна палітычная дзейнасьць у Беларусі паралізаваная ці адсунутая на ўзбочыну жыцьця: справядлівыя і дэмакратычныя выбары немагчымыя, растаптаны парлямэнтарызм, душыцца свабода прэсы. Таму на першы плян выходзяць іншыя мэтады барацьбы дзеля абароны незалежнасьці краіны, за вызваленьне Беларусі ад марыянэткавай дыктатуры. Гэта —мэтады ня вузкай палітычнай партыі, а шырокага, масавага нацыянальна-вызвольнага руху, які абірае канкрэтную тактыку дзеяньняў з увагі на сітуацыю. У гарманічным адзінстве павінны быць і мэтады вулічнай дэмакратыі, і грамадзянскае непадпарадкаваньне антызаконнай і антыбеларускай уладзе, і культурна-асьветная дзейнасьць, і прапагандовая актыўнасьць.

БНФ "Адраджэньне" падзяляе традыцыйныя кансэрватыўныя каштоўнасьці эўрапейскай (заходняй) дэмакратыі. Гэта — пашана да свабоды і правоў чалавека, абарона культурных і сямейных каштоўнасьцяў, курс на ўмацаваньне нацыянальнай дзяржавы як мэханізму забесьпячэньня правоў асобы і правоў народу. У традыцыйным эўрапейскім палітычным спэктры БНФ "Адраджэньне" сваіх найбліжэйшых палітычных партнэраў бачыць сярод партыяў цэнтрысцкай —кансэрватыўнай і хрысьціянска-дэмакратычнай — арыентацыі.

**Прынята V Зьездам БНФ "Адраджэньне" 21 чэрвеня 1997 г.**

## "Супраць зьнішчэньня Беларускай нацыянальнай адукацыі"

Кіруючыся плянамі зьнішчэньня Беларускай дзяржаўнасьці, афіцыйны рэжым вядзе асабліва апантаны наступ у галіне нацыянальнай адукацыі: гвалтоўна звужаецца сфэра ўжытку беларускай мовы, з імпэрскіх пазыцыяў пераглядаецца зьмест гістарычнай адукацыі, ад кіраўнічых пасадаў адхіляюцца нацыянальна сьвядомыя спэцыялісты, беларускія аўтары пазбаўляюцца магчымасьці выданьня ўжо падрыхтаваных імі падручнікаў, праз афіцыёзныя моладзевыя арганізацыі выхоўваецца нігілістычнае стаўленьне школьнікаў і студэнтаў да нацыянальных каштоўнасьцяў.

Грамадзяне Беларусі фактычна пазбаўленыя магчымасьці навучаньня на беларускай мове. Актыўная русіфікацыя ў адукацыйнай сфэры прывяла, напрыклад, да таго, што за апошнія два гады набор у першыя беларускія клясы ў г. Менску скараціўся з 58% да 12%, а ў гарадах Магілёўскай вобласьці з 67% да 1,7%.

Практычна вынішчана ўжываньне беларускай мовы ў вышэйшай адукацыі — у дзяржаве не існуе ніводнай ВНУ з навучаньнем на мове карэннага этнасу.

Сёньняшняя палітыка марыянэткавага рэжыму ў Беларусі зьяўляецца лягічным працягам палітыкі Расейскай імпэрыі і яе спадкаемцы Савецкага Саюза, скіраванай на асіміляцыю беларускай нацыі праз вынішчэньне беларускай адметнасьці.

Беручы пад увагу, што абавязковай умовай захаваньня нацыі і атрыбутам незалежнай дзяржавы выступае нацыянальная мова, Беларускі Народны Фронт рэалізуе свае праграмныя палажэньні ў сфэры адукацыі ў рамках мэханізму супрацьдзеяньня лукашэнкаўскаму антыбеларускаму рэжыму.



## Спыніць перасьлед грамадзкіх арганізацыяў!

### Заява V Зьезда Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"

Рэжым Лукашэнкі мэтадычна вынішчае падставы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, расколвае грамадзтва, імкнецца здушыць любыя непадкантрольныя яму ініцыятывы. Мэта рэжыму — ператварыць беларускае грамадзтва ў маўклівы, пакорлівы, пазбаўлены пачуцьця Радзімы і свабоды натоўп.

Але сотні ўзьніклых у Беларусі за апошнія гады няўрадавых грамадзкіх арганізацыяў — сьведчаньне адраджэньня беларускага народу да грамадзкага чыну, зарука жыцьцяздольнасьці беларускай грамадзянскай супольнасьці. Так, менавіта дзякуючы грамадзкім арганізацыям, а не афіцыйным уладам, сьвет даведаўся пра маштабы наступстваў Чарнобыля для Беларусі. Менавіта грамадзкія арганізацыі, а не дзяржаўныя структуры бароняць зараз беларускую культуру, мову, гістарычную памяць. Грамадзкія арганізацыі, а не дзяржаўныя "праваахоўныя" органы, адстойваюць правы і свабоды чалавека ў Беларусі.

Для задушэньня грамадзкіх ініцыятываў рэжым выкарыстоўвае розныя мэтады. Ствараюцца фіктыўныя, падначаленыя адміністрацыі прэзідэнта псэўдаграмадзкія арганізацыі накшталт БПСМ — лукашысцкага камсамолу, утворанага на базе адыёзнага "Прямога действія". Функцыі грамадзкіх арганізацыяў намагаюцца пераняць прэзідэнцкія структуры накшталт нова ўтворанага "дэпартамэнта па справах гуманітарнай дапамогі" адміністрацыі Лукашэнкі.

Адбываюцца непасрэдныя рэпрэсіі супраць грамадзкіх арганізацыяў ды іхных актывістаў. Улады, няздольныя дапамагчы пацярпелым ад Чарнобыля, пачалі цкаваньне найбуйнейшай і найбольш аўтарытэтнай у Беларусі, вядомай у сьвеце дабрачыннай арганізацыі — Беларускага дабрачыннага фонду "Дзеці Чарнобыля", які зарганізаваў аздараўленьне больш як 100 тысячаў беларускіх дзяцей. Кіраўнік Фонду, навуковец і дэпутат Генадзь Грушавы, стаў аб'ектам сфабрыкаванай уладамі крымінальнай справы супраць Фонду. Рэжым распраўляецца зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі, як гэта стала зь Беларускім Фондам Сораса, фондам "Бацькаўшчына" ў Горадні і г.д.

Беларускі Народны Фронт патрабуе спыніць перасьлед грамадзкіх арганізацыяў ды іхных актывістаў. Мы заклікаем міжнародную супольнасьць праявіць салідарнасьць зь няўрадавымі арганізацыямі Беларусі, якія вядуць мужную барацьбу за дэмакратыю, свабоду і правы асобы.

## Найпершая ўмова

Насуперак дзяржаўнаму націску на моладзь,што знайшло сваё поўнае адлюстраванне ў прымусовым стварэнні БПСМ (лукамола), няўрадавыя маладзёвыя арганізацыі працягваюць змагацца за сваё самастойнае існаванне. У мінулую нядзелю ў Мінску адбылася канферэнцыя маладзёвых арганізацый,што арыентуюцца на каштоўнасці дэмакратыі і выступаюць за незалежнасць Беларусі як найпершай умовы прыстойнай будучыні для сябе. Фундатарамі навукова-практычнай дыскусіі прадстаўнікоў з усіх рэгіёнаў краіны выступілі Задзіночанне Беларускіх Студэнтаў, Цэнтр "Супольнасць" і Міжнародны Адукацыйны Цэнтр.

Дыскусія паказала, што інтарэсы моладзі не ўяўляюць сабой нешта далёкае ад клопатаў усяго грамадства. Моладзь выдатна разумее, што без вырашэння асноўных палітычных, эканамічных і сацыяльных праблем у краіне немагчыма гаварыць ні аб ніякіх "сваіх" інтарэсах. Удзельнікі дыскусіі выказаліся за ўмацаванне дэмакратыі, правядзенне рынкавых рэформаў, пабудову адкрытага грамадства.

Канферэнцыя вырашыла склікаць сёлета першую Асамблею маладзёвых беларускіх арганізацый, якія падзяляюць імкненне да свабоднай дзейнасці і здольныя заявіць аб сябе як самастойнай грамадскай сіле.

Дзяніс НОВІКАЎ.

## "Аб праўнай нікчэмнасьці дамоваў рэжыму Лукашэнкі з Расеяй"

Прамаскоўскі рэжым Лукашэнкі падпісаў з Крамлём шэраг дамоваў, скіраваных на паступовае зьнішчэньне незалежнасьці Беларусі. Але, як вядома, дыктатарскі рэжым у Менску ўчыніў дзяржаўны пераварот у форме незаконнага рэфэрэндуму, гвалтоўнага скасаваньня інстытутаў парлямэнтарызму і незалежнага суду, патаптаньня правоў і свабодаў чалавека. Вынікі дзяржаўнага перавароту, лукашэнкаўская дыктатарская канстытуцыя і псэўдапарлямэнт не прызнаныя нідзе ў сьвеце, акрамя Расеі. Зрэшты, рэжым Лукашэнкі страціў легітымнасьць раней — калі Канстытуцыйным судом прызнаныя супярэчнымі Канстытуцыі прэзідэнцкія ўказы.

Таму любыя захады Лукашэнкі і прызначанага ім "нацыянальнага сходу", скіраваныя супраць незалежнасьці Беларусі, у тым ліку міжнародныя дамовы, усе акты супраць правоў і свабодаў чалавека ня маюць ніякай юрыдычнай сілы і будуць адмененыя адразу пасьля падзеньня рэжыму. Будзе праведзена расьсьледаваньне дзейнасьці службовых асобаў, якія рэалізоўвалі палажэньні незаконных актаў.

### "Заява Зьезда БНФ "Адраджэньне"

У ноч з 19 на 20 чэрвеня 1997 г. у сябе ў кватэры быў незаконна арыштаваны в.а. старшыні БНФ "Адраджэньне" Лявон Баршчэўскі. Асаблівае абурэньне выклікае той факт, што гэты арышт адбыўся на фоне перамоваў прадстаўнікоў прэзідэнта і Вярхоўнага Савета пры пасярэдніцтве Эўрапейскага Зьвязу, скіраваных на вяртаньне Беларусі на глебу канстытуцыйнай законнасьці і забесьпячэньня правоў чалавека.

Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", легальна зарэгістраваны найбуйнейшы апазіцыйны рух на Беларусі, усю сваю дзейнасьць скіроўвае на абарону законнасьці і канстытуцыйнага ладу ў краіне. Арышт Л.Баршчэўскага напярэдадні V зьезду БНФ "Адраджэньне" яскрава паказвае, якімі сродкамі супраць апазіцыі карыстаецца рэжым Лукашэнкі.

Гэта чарговы раз сьведчыць пра бяссэнсавасьць любых перамоваў з пануючым сёньня на Беларусі рэжымам.

**21 чэрвеня 1997 г.**
**г. Менск.**

## Адміністрацыйны пшык гарвыканкама

Рашэнне Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэту ад 15.05.97 N 9-7 "Аб ліквідацыі суб'ектаў гаспадарання — юрыдычных асоб і спыненню прадпрымальніцкай дзейнасці, ажыццяўляемай без утварэння юрыдычнай асобы" заслугоўвае таго, каб аб ім паразмаўляць з зацікаўленымі асобамі, якія займаюцца прадпрымальніцтвам без утварэння юрыдычнай асобы.

Кожны, каго гэта рашэнне тычыцца, а гэта тыя, хто не прайшоў так званую ***агульнарэспубліканскую рэгістрацыю,*** можа зайсці ў Дом Саветаў і атрымаць там выпіску з рашэння N 9-7 ад 15.05.97. Але я не раю гэтага рабіць нікому, акрамя тых, хто калекцыяніруе падобнага роду паперкі, як я, напрыклад. За месяц, які прайшоў з часу прыняцця рашэння, я быў толькі чацвёртым з тых, хто атрымаў на рукі выпіску. Ніякай юрыдычнай каштоўнасці яна не ўяўляе, ніякай абавязковасцю для выканання яна не валодае. Таму, хто займаецца сваёй справай згодна Закона РБ "Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь" альбо па-за межамі гэтага закона лепш, наогул, не распісвацца за яе атрыманне. Можа, гарвыканкам раскашэліцца на заказны ліст і захоча выслаць яго вам. Калі вышле, то зрабіце выгляд, што яго не атрымалі і пачынайце думаць, як лепш схаваць свае будучыя даходы. Як кажуць: бойся каня з заду, каровы з пераду, а дурную ўстанову з усіх бакоў. Мне гэтая паперка патрэбна толькі дзеля таго, каб у кампаніі прадпрымальнікаў было аб чым паразмаўляць. А кампанія звычайна складаецца з тых, хто прайшоў і тых, хто не прайшоў. Першыя альбо "багаценькія бураціны", альбо бедныя і хворыя на нетрыманне грошай. Мне шкада тых, хто не прайшоў. І я звычайна тлумачу ім усё як яно ёсць.

Згодна з арт. 58 Канстытуцыі вы не можаце быць прымушаны выконваць тое, што не прадугледжана законам. Згодна з Законам РБ "Аб прадпрымальніцтве ў РБ" вы можаце ажыццяўляць прадпрымальніцкую дзейнасць без набыцця статусу прадпрымальніка і з набыццём такога статусу. Вы можаце набыць статус з утварэннем юрыдычнай асобы альбо без утварэння. Статус прадпрымальніка набываецца пры дапамозе дзяржаўнай рэгістрацыі (арт. 5). Аніякай іншай рэгістрацыі законам не прадугледжана. А таму калі вы самі не жадаеце, то ніхто не можа вас прымусіць выконваць тое, што не прадугледжана законам.

Калі вас вымушаюць звярнуць прадпрымальніцкую дзейнасць, якую вы ажыццяўляеце без утварэння юрыдычнай асобы, у вас застаецца магчымасць ажыццяўляць яе без набыцця статусу прадпрымальніка (без абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі). Напрыклад, для рознічнага гандлю патрэбная толькі ліцэнзія. Спыніць вашу прадпрымальніцкую дзейнасць можа толькі суд (арт. 12). Праз суд прадпрымальнік можа спагнаць страты, якія ён панёс ад парушэння дзяржаўным органам яго правоў (арт. 11). Спагнанне страт рэгламентуецца "Палажэннем аб парадку пакрыцця страт, нанесеных суб'ектам гаспадарчай дзейнасці незаконнымі дзеяннямі дзяржаўных органаў і іх службовых асоб".

Тыя, хто палічыў эканамічна выгадным прайсці агульнарэспубліканскую рэгістрацыю — дабраахвотна пажадалі зрабіць тое, чаго няма ў законе. Яны гэта зрабілі не апошні раз. Калі б не было такіх людзей, то хто падтрымліваў бы наш спорт, нашых чыноўнікаў-спінагрызаў, аплочваў бы маскарады і феерверкі, фінансаваў АМАП, капгасы і іншых кровасмокаў?

Далей я тлумачу наступны расклад. Канстытуцыя і законы — гэта тое, што называецца ***заканадаўствам*** (заканадаўчыя акты). Усё іншае —гэта тое, што ў законах называецца ***іншыя нарматыўныя акты*** (падзаконныя акты). Пры супярэчнасці гэтых актаў іх юрыдычная моц меншае ў наступным парадку: Канстытуцыя —закон (згодна нелігітымнай Канстытуцыі —яшчэ і дэкрэт прэзідэнта) —указ прэзідэнта —пастанова Кабінету Міністраў (згодна нелігітымнай Канстытуцыі— Савету Міністраў) —нарматыўны акт міністэрстваў, камітэтаў, ведамстваў — нарматыўны акт дзяржоргану абласнога ўзроўню — нарматыўны акт гарадскога (раённага) ўзроўню — ...надпісы на заборах.

Любы нарматыўны акт можна адмяніць праз гаспадарчы суд. Але трэба ведаць як гэта зрабіць, інакш толькі павучышся за свае грошы ўму-розуму. Гэта не так ужо і кепска, але лепш спачатку паглядзець як гэта робяць прафесіяналы. А прафесіяналы не спяшаюцца. Яны вывучаюць заканадаўства, падзаконныя акты, магчымасці суперніка, свае магчымасці. Ставяць перад сабой рэальныя мэты і чакаюць. Чакаць нярэдка прыходзіцца занадта доўга. Так доўга, што хворае пытанне часам само сабой рассмоктваецца. Не заўсёды выпадае такая ўдача. Але ў нашым выпадку верагоднасць самазнікнення праблемы вельмі вялікая. Гэта верагоднасць можа яшчэ больш узрасці, калі здзейсніць некаторыя захады, каб не даць рэалізаваць такое рашэнне, якое да спадобы нашым спінагрызам.

Лепш за ўсё выбіць зубы. У пераносным сэнсе, зразумела. А можа пачакаць, пакуль яны, зубы, самі вываляцца. У прамым сэнсе. Пры іхных зарплатах ганяцца за прадпрымальнікамі, якія не прызнаюць законнасці гэтай (я не баюся гэтага слова) фікцыі, яны доўга не здолеюць, толькі апошнія чаравікі парвуць. І вось калі іхныя чаравікі захочуць есці, можна прапанаваць ім свае думкі наконт павялічэння збора налогаў з тых, хто ўжо прайшоў агульнарэспубліканскую рэгістрацыю. Гэтыя ў нас досыць памяркоўныя і не дадуць памерці спінагрызам з



голаду, вядома, калі сваіх дзяцей кормяць не бульбяным шалупіннем. Таму прыйдзецца яшчэ трохі пачакаць, пакуль будуць разарацца "бураціны". Калі пачнецца "зубапад", можна будзе выйсці з падполля і прапанаваць свае паслугі па ліквідацыі рашэння N 9-7.

Мы разгледзелі самы прывабны варыянт. Ён добры таму, што патрабуе ад вас толькі размоваў аб тым, што вы не прызнаёце законнасці гэтага рашэння, усю пыльную работу робяць спінагрызы. Яны спыняюць вашу прадпрымальніцкую дзейнасць, ажыццяўляюць разлікі з крэдыторамі, закрываюць вашыя разліковыя рахункі, здаюць вашыя пячаткі і штампы, паведамляюць аб гэтым гарвыканкаму. Таксама спыняюць вашую вытворчасць, разлічваюцца з вашымі работнікамі, плоцяць ім выхадную дапамогу, нясуць адказнасць за страты, якія яны вам нанеслі і якія вы можаце адсудзіць і робяць шмат іншай дурноты, аб чым хутка пашкадуюць, бо за выкананне распараджэнняў, не адпавядаючых заканадаўству, іх можна прыцягнуць да шматлікіх адказнасцяў.

Лепш за ўсё разжыцца на Закон РБ "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце" і тыкаць іх у апошні абзац арт. 10. Там напісана: "Служачыя дзяржаўнага апарату абавязаны... адмовіцца ад выканання даручэння, калі яно супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь". Цікава, колькі разоў трэба паказаць служачай дзяржапарату гэты артыкул, каб яна сама сыйшла са службы? А ведзь улада магла б усё рабіць па закону, але, як кажуць — не для дурняў законы пісаны.

Прашу прабачэння за выказванне агульнавядомых ісцін.

**В.АБРАМОВІЧ,**
**прадпрымальнік (без утварэння юрыдычнай асобы).**

# Хто спаліў Магілёў у 1708 годзе?

**(Працяг гістарычнага агляду І.Пушкіна)**

7 чэрвеня шведы распачалі чарговы наступ на Маскву. 3 ліпеня ў баі пад Галоўчынам яны разбілі расійскае войска, а 7-га ўвайшлі ў Магілёў. У запісах ігумена Арэста занатавана, што напярэдадні ўваходу шведаў у Магілёў: "Россияне хотели выжечь город Могилев, но таковое повеление отклонили могилевские граждане от города значительными подарками".

Ад першай спробы расійскага войска знішчыць Магілёў адкупіліся грашыма. Але ж другі раз не атрымалася.

У жніўні 1708 г. шведскія войскі рушылі ў кірунку Мсціслава. Расійскае войска адыходзіла далей на ўсход.

Не паспеў яшчэ шведскі кароль рушыць на Старадуб і Палтаву, як царскія пажараносцы з боку Горак падышлі пад Магілёў: "Года 1708 месяца верасня 8-га... горад Магілёў, нягледзячы на тое, што быў разрабаваны шведамі, але застаючыся збудаваным у дамы, крамы, на Божыя святы абярнуўся за адзін дзень праз агонь у попел і тло, бо з указу цара Пятра Аляксеевіча, масква, калмыкі, татары... роўна з усходам сонца, акружылі горад з усіх бакоў... прошана літасці, але дарэмна, толькі дадзена гадзіна вольнага часу і прыстаўлена варта, пакуль пазношаны з ратушы ў склеп гарадскія кнігі. Тут калмыкі крамы адбіраюць, рабуюць, з другога канца паляць, заўважым між іншым, людзей з адзення абіраюць, грошы мацаюць, цэрквы адчыняюць, рабуюць... А калі агонь заняўся з усіх бакоў, разрабаваўшы горад дашчэнту, ад'ехалі прэч... У гэты час пабожны і акамянелы люд мусіў выплакаць апошнія слёзы, бачачы, як аздобленыя Божыя святыні, арнаментаваныя крыжы, Божыя цэрквы паціху, разгарэўшыся ў агні, валяцца на зямлю..."

Запіскі ігумена Арэсты дапаўняюць звесткі хронікі Сурты і Трубніцкіх: "...Часы, бывшие на Братской колокольне сгорели, также икона большая Богородичная, стоящая от древнейших времен на браме Олейной, сгорела. Колокола кафедральной Спасской церкви большие, мелодичные растопились. Церковь ближне-Воскресенская до основания сгорела и колокол растопился. На церкви Николаевской красивые куполы, а внутри оной хоры и двери все, погорели... колокол большой упал на окошко и, опершись на било, раскололся..."

Ад усяго горада ацалела толькі прадмесце Лупалава, бо татары і калмыкі не здолелі пераправіцца праз Днепр. Той жа Арэста сцвярджае, што калі б магілёўцы толькі паспрабавалі б супраціўляцца ці абараняцца, то іх бы ўсіх пакаралі мячом. На гэты выпадак у дзесяці верстах ад горада стаялі некалькі аддзелаў расійскага войска.

**ХТО ВЫРАТАВАЎ БЕЛАРУСЬ ПАД ЧАС ПАЎНОЧНАЙ ВАЙНЫ?**

Як ні дзіўна, Беларусь ад расійскай навалы тады выратавала... Турцыя. У 1711 годзе, 25 лютага ў Маскве ва Ўспенскім саборы была аб'яўлена няўдалая для Расіі вайна з Турцыяй. Пасля акружэння 11 ліпеня на рацэ Прут расійскага войска П.П.Шафіраў падпісаў з Турцыяй мір, адзін з пунктаў якога засведчыў, што Расія не мае права ўмешвацца ў справы Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Але ж гэты пункт не заўжды выконваўся.



# З путаў атэізму

У наш час шмат хто адчувае настальгію па мінулых дзесяцігоддзях. Гэтым людзям цяжка, бо само жыццё штурхае іх да самавызначэння, а гэта як раз тое, чаго яны ніколі не ўмелі рабіць. Таму яны разгубленыя, адчайна злыя і панурыя.

Адны шукаюць шлях да Хрыста, другія ж, бачачы паступовае адраджэнне Царквы, у чарговы раз імкнуцца зняславіць, вымазаць брудам і Хрыста, і яго Царкву. Можна было б не зважаць на гэтыя глупствы, але дзеля дапамогі першым на некаторыя філіпікі "нападанцаў" трэба адказаць.

1. Нярэдка можна пачуць, што, маўляў, хрысціяне — гэта рабы, яны і самі сябе так называюць: рабы Божыя. Але ж выраз "раб Божы" азначае толькі, што чалавек працуе Богу. Хрысціянін, духоўна адчуваючы Бога, з радасцю ідзе да Яго ў паслушэнства, бо ведае аб дабрыні і святасці Бога. А тыя, хто так любілі выводзіць словы "мы не рабы, рабы не мы", зноў аказаліся рабамі, але рабамі грэху і ўласных ілюзій.

2. Яшчэ пра хрысціян кажуць і так: у іх усё на страху пабудавана. Разбярэмся і з гэтым. Адна справа — жывёльны, неасэнсаваны страх, іншая справа — боязь саграшыць, зрабіць кепска, кагосьці пакрыўдзіць. Страх Божы чысты. Але ж, мабыць, нават у такім страху няма дасканаласці. Як сцвярджае апостал Ян Багаслоў, у Любові няма страху, бо найвышэйшая Любоў выганяе страх. Але ж дарога да найвышэйшай Любові ляжыць праз страх — страх парушыць закон, дадзены Богам ад веку. Толькі на вышынях святасці ўжо няма страху. Антоній Вялікі пісаў, што ён ужо не баіцца Бога, ён проста любіць Яго. Але ж як нам усім яшчэ далёка да гэтага! Мы толькі падыйшлі да гэтай гары і слухаем прарока Давіда: "Пачатак мудрасці — страх Божы", г.зн. страх Божы — аснова духоўнага шляху.

3. Нярэдка можна пачуць і скептычныя заўвагі наконт царкоўных абрадаў. Навошта яны? Абрады, як знешняе афармленне богаслужэння, вельмі неабходныя. Яны знешнім чынам (на вачах ва ўсіх і ў саміх сябе) ставяць нас перад Богам. Усякае чалавечае дзеянне, у тым ліку і дзеянне духоўнае, павінна быць аб-рамлена прыгожай і правільнай формай. Акрамя таго, сам абрад, архітэктура храма, асаблівасці распеваў утрымліваюць таямніцу, што выражае каларыт і непаўторнасць той зямлі, на якой адбываецца набажэнства. Абрад неаддзельны ад унутранага зместу. Пазбягаць трэба не абрадаў, а абрадавер'я, калі ўнутраны змест губляецца за знешняй формай.

4. Бязвернікі гавораць таксама: чаму ж ваш Бог дапускае столькі зла на зямлі? Дзе ж Яго міласэрнасць і дабрыня, калі на зямлі столькі забойстваў, злачынстваў і хлусні? Але спытаем і мы: хіба ж па Божай волі разбураліся Храмы, расстрэльваліся святары, высылаліся сяляне, знішчалася інтэлігенцыя? Бог стварыў чалавека свабодным і не можа змяніць прыроды свайго стварэння. Чалавек сам выбірае свой шлях — шлях зла, нянавісці і хлусні ці шлях сумлення, міру і любові. Але ў любога чалавека і любога народа, як і ў евангельскага блуднага сына, заўсёды ёсць магчымасць праз пакаянне прыйсці да Бога, змяніць сваё жыццё ў лепшы бок. Тут яшчэ адна спакуса для бязвернікаў папракнуць хрысціян: вось як у вас, хрысціян, усё проста: зрабіў грэх — пакайся, яшчэ саграшыў — яшчэ пакайся — і табе Бог даруе. Добра, маўляў, уладкаваліся. Такія намёкі на крывадушнасць могуць выказваць людзі, якія не маюць вопыту пакаяння, не ведаюць, што гэта такое. Справа ў тым, што чалавек, які саграшыў, абцяжарыў тым самым сваё сумленне. І калі пакаянне адбываецца фармальна, павярхоўна, то мір душы не аднаўляецца. Пакаянне, у перакладзе з грэцкай, азначае перамену, перамену стану душы. Пакаянне, напэўна, адна з самых цяжкіх спраў на зямлі. Пакаяцца — значыць распяць свой грэх перад Богам. Хто каяўся, той ведае, як гэта цяжка. Але хто каяўся, той ведае, які спакой і мір апаноўвае душу, калі маленне йшло з глыбіні душы і было шчырым.



Шлях чалавека да Бога ва ўсе часы быў нялёгкім. У нашай жа шматпакутнай Айчыне гэты шлях стаў асабліва цяжкім і пакутлівым. Зусім няпроста чалавеку змяніць светапогляд, навязаны яму дзяржаўнай рэлігіяй апошніх дзесяцігоддзяў — атэізмам ці дакладней бязбожжам.

Ступаючы на сцежку духоўных пошукаў, трэба быць вельмі асцярожным. Духоўныя звесткі не бываюць нейтральнымі. Або яны праўдзівыя, ад Бога, або няпраўдзівыя, ад сатаны. Яшчэ У.Высоцкі пеў: "...не ўсё тое, што зверху, — ад Бога". Не ўсякія размовы аб духоўнасці вядуць да Бога. Да выбару рэлігіі (вучэння, настаўніка, царквы) трэба падыходзіць вельмі сур'ёзна і асцярожна, бо ад гэтага выбару залежыць лёс душы ў вечнасці. Трэба помніць, што лягчэй ад бязвер'я прыйсці да веры, чым выблытацца з лабірынта памылковай веры, вызваліцца з духоўнага палону.

Бог ёсць Дух, спазнаць яго розумам немагчыма, можна толькі душою, сэрцам пакорлівым і чыстым. Бог ёсць Любоў, і калі сэрца ілжывае, калі намеры нядобрыя, калі розум азмрочаны гонарам і славалюбствам, то такая душа ў сваім самалюбаванні становіцца лёгкай здабычай сіл цемры, не спазнаўшы Любові Божай. Ачысцім жа сэрцы свае і душы, каб прыняць Бога ва ўсёй Яго неабсяжнасці і Любові.

**Тугай Алег Мікалаевіч,**
**кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт кафедры псіхалогіі педагагічнага інстытута.**

# Як мала палічылі лішнім




Чарнобыльская тэматыка не пазбаўлена ўвагі ў сродках масавай інфармацыі. Не мінае дня, каб у газетах не друкаваліся, па тэлебачанні і радыё не перадаваліся матэрыялы, якія б у той ці іншай ступені не краналі праблемы наступстваў найвялікшай пасля адкрыцця атамнай энергіі трагедыі, ахінуўшай сваім чорным бязлітасным крылом пятую частку тэрыторыі шматпакутлівай Беларусі.

Але шырокая галоснасць, у якой напачатку саліравалі вучоныя, а цяпер гэтая роля патроху адышла да простага люду, чый лёс стаў неаддзеленым ад няпрошанай і непрадбачанай бяды, дагэтуль не адчувае пад сабой трывалай і абавязковай у такім становішчы матэрыяльна-эканамічнай базы. І калі недастатковую дапамогу пацярпелым у нейкай ступені можна растлумачыць цяжкім станам народнай гаспадаркі краіны, то адмену альбо прыпыненне іх асобных, раней дзеючых ільгот абгрунтаваць зусім немагчыма.

Увогуле, ільгот тых было нібы "кот наплакаў", задужа менш, чым патрабавалася ў такой сітуацыі, чаго чакалі самі пацярпелыя і дамагаліся дабрачынныя арганізацыі з іншых краін свету, адкуль працягваюць паступаць гуманітарныя грузы.

Ну было, скажам, права на беспрацэнтную пазыку. Аднак далёка не кожны ім пакарыстаўся: не па Сеньку шапка. Не станем пералічваць іншыя, у нашых умовах нерэальныя і нерэалізаваныя магчымасці. Засяродзім хіба позірк на бясплатным праездзе ў гарадскім транспарце для ўладальнікаў пасведчання ліквідатараў Чарнобыльскай аварыі (па 20-му артыкулу).

Амаль два гады назад прэзідэнт прыпыніў дзеянне гэтай ільготы. Яго рашэнне тагачасныя Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд прызналі няправільным і незаконным. З тае пары няма яснасці ў гэтай справе: каму падпарадкоўвацца, чыя ўлада вышэй. Поўным і аднадушным разуменнем аб'яднаны толькі сярдзітыя аўтобусныя і тралейбусныя кантралёры, якія настойліва "абілечваюць" ліквідатараў. Хаця, заўважце, беларускія ўладальнікі гэтых пасведчанняў бясплатна ездзяць у расійскім транспарце, уключаючы і метро.

Няўжо нават гэту дробязную, штучна акрэсленую праблему не ў стане рэспубліка вырашыць? Да якога тэрміну будзе дзейнічаць эмбарга на выкананне права бясплатнага праезду? Пакуль адамрэ апошні ліквідатар?

Такія і блізкія да іх пытанні задаюць людзі ў размовах паміж сабой, лістах ва ўладавыя структуры. Маўклівым холадам ці ліслівымі тлумачэннямі вее ў адказ...

**Андрэй ЗАРЭЧНЫ.**



## ДА НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

*У чым іншым, а ў гэтым мы ад цывілізаванага Захаду імкнемся не адставаць: лета для адпачынку, а не для работы. На канікулы выходзяць школьнікі і студэнты, прадпрыемствы, тэлевізійныя праграмы, палітыкі. Усё гэта аб'ектыўна звужае інфармацыйнае поле, на якім працуюць газетчыкі. Таму і мы вырашылі час ад часу рабіць перапынкі ў рабоце, якія не вельмі адаб'юцца на вашай інфармаванасці. Наша чарговая з вамі сустрэча — 1 жніўня.*

Рэдактар Генадзь СУДНІК




Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".
*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*
Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82